# Голас Радзімы

№ 42 (2028)
15 кастрычніка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




I. ВОСЕНЬ у вёсцы. Гудуць машыны, што вязуць апошнюю бульбу з палёў, зрэдку прагрукоча фурманка, вясёлаю чарадою вяртаюцца дзеці са школы, а недзе далёка ў майстэрні стукае молат. Шмат клопатаў і работы ў калгаснікаў. Часам дарослым дапамагаюць і дзеці.

Фотакарэспандэнт **М. АМЕЛЬЧАНКА**, які пабываў у гаспадарках Шчучынскага раёна, што на Гродзеншчыне, сфатаграфаваў Марыю **БУДЗІЛОВІЧ** і яе сына Сярожу пасля працоўнага дня. (Фотарэпартаж пра будні калгаснікаў змешчаны на 4-й стар.).

## НАШЫ СУАЙЧЫННІКІ ПРА КІНАФІЛЬМ «АМЕРЫКА»

# КАМУ ГЭТА ВЫГАДНА

**Некалькі месяцаў таму назад у Злучаных Штатах Амерыкі, а затым і ў Канадзе дэманстраваўся шматсерыйны тэлефільм вытворчасці кампаніі Эй-бі-сі «Амерыка». Апраўдваючыся тым, што сюжэт фільма не рэальны, што гэта толькі «прадукт творчасці кінамайстроў», яго аўтары абрушылі на мільёны тэлегледачоў мацнейшы ўдар антысавецкай прапаганды, разлічаны на тое, каб парадзіць у абывацеляў ЗША страх перад нашай краінай, нянавісць да савецкага народа. Падобныя, з дазволу сказаць, «творы» кінабізнесу на амерыканскіх кіна- і тэлеэкранах не навінка. Яны дапамагаюць Пентагону неяк апраўдацца за тыя вялікія сродкі, якія трацяцца на гонку ўзбраенняў. Але ні аб адным з іх не гаварылі так многа, як аб «Амерыцы». Ніколі яшчэ антысавецкая прадукцыя тэледзялкоў не выклікала такога абурэння ў саміх Злучаных Штатах. Прайшлі тыя часы, калі гледачы слепа верылі ўсяму, чым іх шпігавалі з экрана. Усё больш амерыканцаў ведаюць сёння аб міралюбівых ініцыятывах нашай краіны, аб тым, што савецкія людзі панеслі цяжкія страты ў мінулай вайне і ніколі не захочуць, каб яна паўтарылася. Ведаюць амерыканцы аб сустрэчы ў Рэйк'явіку, аб перагаворах у Жэневе. І таксама, як і мы, спадзяюцца, што нарэшце адбудзецца пацяпленне паміж нашымі краінамі, што два вялікія народы змогуць супрацоўнічаць адзін з адным на карысць усеагульнага міру. Гэтыя настроі і вырашылі неяк пагасіць амерыканскія «ястрабы» тэлефільмам «Амерыка». Аднак атрымалі зваротны эфект. Нашы землякі, якія прыязджалі летась у Беларусь, ужо выказваліся наконт фільма «Амерыка» на старонках газеты. Рэдакцыя атрымала нямала пісем ад суайчыннікаў на гэтую тэму. Прапануем вашай увазе некалькі найбольш характэрных з іх.**

Першае пісьмо з ЗША ад **Рыгора МЕХАВА.** Вось што ён піша:

«Аб тым, што ў хуткім часе па тэлебачанні будзе дэманстравацца новы фільм «Амерыка», я даведаўся з газет. Яшчэ тады мяне здзівіла, што даваліся толькі шматлікія аб'явы аб тым, што з'явіўся новы фільм, і час, калі ён будзе паказвацца, але нічога не гаварылася пра яго змест, як гэта тут звычайна робіцца. Мы даведаліся толькі, што тэлефільм будзе сямісерыйны, кожная серыя па дзве гадзіны, што на яго стварэнне былі затрачаны дзесяткі мільёнаў долараў, што было многа буйнамаштабных здымак і ўдзельнічае многа людзей. Разам з жонкай мы, вядома, зацікавіліся такім анонсам і ў вечар паказу сядзелі каля тэлевізара. Але пасля першых некалькіх мінут фільма былі вымушаны зусім выключыць тэлевізар, таму што ў фільме было шмат парнаграфіі. Нават глядзець было сорамна. Не ўяўляю, як жа адчувалі сябе людзі старэйшага пакалення, якія глядзелі ўвесь гэты сорам з сям'ёй, сваімі дзецьмі і ўнукамі. Дэманстрацыя фільма працягвалася амаль тыдзень. Калі яна закончылася, то некалькі разоў у розных сітуацыях у мяне заходзіла размова пра гэты фільм са знаёмымі амерыканцамі. Мяне цікавіла іх думка, а яны, ведаючы, хто я, хацелі даведацца пра мае меркаванні.

Многія, як і я, нават не даглядзелі да канца першую серыю. І ўсё па той жа прычыне. Адзін з маіх знаёмых сказаў, што ён бачыў увесь фільм, але пахваліць яго не можа, таму што ў ім было многа надуманага, непраўдападобнага, а часам і проста глупства. Другі сказаў, што і гаварыць аб «Амерыцы» не хоча, таму што фільм увогуле нічога не варты, а тым больш увагі гледачоў. У цэлым я змог зрабіць вывад, што амерыканскай публіцы фільм не спадабаўся. І я думаю, не толькі па тых прычынах, што называліся. Добра ведаючы амерыканцаў, магу сказаць упэўнена, што большасць з іх хоча, каб на планеце быў мір, каб на Зямлі заўсёды існавала чалавецтва, таму што напэўна больш нідзе няма разумных істот. А гэты фільм, наадварот, заклікае адносіцца адзін да аднаго з варожасцю і іграе на руку тым, хто хоча ўвесці нас у ядзерную катастрофу».

Другое пісьмо прыйшло ад нашых старых знаёмых і пастаянных чытачоў у Канадзе **Надзеі і Рыгора МАРТЫНЮКОЎ.**

«Мы глядзелі фільм «Амерыка» з першай да апошняй серыі, хоць, прызнаемся, вытрымаць усё гэта маральна было вельмі нялёгка. Назіраць на працягу доўгага часу, як бессаромна абліваюць брудам тваю Радзіму, яе народ! Гэта не можа не выклікаць справядлівай крыўды і гневу. Але на такое выпрабаванне мы пайшлі свядома, каб потым мець поўнае права адстойваць сваё меркаванне наконт гэтага «кінашэдэўра». Упэўнены, што гэта самая шалёная антысавецкая прапаганда і што такі фільм маглі зрабіць толькі людзі несумленныя. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што большасць канадскай грамадскасці, даведаўшыся аб тым, пра што гэты фільм і як ён зроблены, выступалі супраць яго дэманстрацыі па тэлебачанні Канады. Але мы жывём у капіталістычнай краіне, і тут інтарэсы бізнесу ставяцца вышэй за ўсё.

Здарылася так, што тэлефільм «Амерыка» паказваўся якраз у той час, калі Савецкі ўрад прыкладаў усе намаганні, каб спыніць нарошчванне ўзбраенняў, выказваў розныя прапановы па раззбраенню, якія садзейнічалі б знішчэнню ўсёй ядзернай зброі да 2000 года. У гэты ж час урад ЗША яшчэ раз пацвердзіў, што будзе працягваць праграму «зорных войнаў», якая нясе рэальную пагрозу ўсяму чалавецтву. Што гэта, як не палітыка агрэсіі? А фільм «Амерыка» апраўдвае гонку ўзбраенняў, абвінавачвае СССР у «агрэсіўнасці», хаця рэаліі гісторыі даказваюць адваротнае. Менавіта ЗША ў 1918 годзе высадзілі ваенны дэсант на тэрыторыю маладой Савецкай рэспублікі і спрабавалі задушыць яе. Менавіта ЗША пасля другой сусветнай вайны скінулі атамныя бомбы на Хірасіму і Нагасакі. Не сакрэт, што гэта было зроблена з мэтай запалохаць Савецкі Саюз, каб навязваць яму сваю палітыку. Урад ЗША цесна звязаны з ваенна-прамысловым комплексам. І гэты фільм «Амерыка» быў створаны для таго, каб пераканаць рядавога амерыканца ў неабходнасці падтрымліваць мілітарысцкі курс Вашынгтона, адрадзіць антысавецкія настроі. Ці не лепш было пайсці насустрач савецкім мірным прапановам? Ад гэтага б выйгралі ўсе».

Закончыць гэтую падборку мы хочам яшчэ адным пісьмом з Канады. Прыслаў яго **Фёдар МАСЛЯК.**

«Для мяне фільм «Амерыка» не што іншае, як хворая фантазія людзей з пашкоджаным розумам. Магчыма хто-небудзь і паверыць усім гэтым выдумкам, якімі на працягу тыдня нас кармілі з экрана. Але, упэўнены, такіх знойдзецца нямнога. Падобныя фільмы ўжо не раз паказваліся тут, але людзі адрозніваюць белае ад чорнага і прапускаюць міма такія «кінашэдэўры».

Мяне радуе, што нягледзячы на ўсе намаганні тых, па чыёй указцы быў зроблены гэты фільм, ва ўсіх капіталістычных краінах, у тым ліку і ў саміх ЗША, усё больш і больш людзей выступае за мір і раззбраенне і ўсё больш людзей пачынае разумець і падтрымліваць міралюбівую палітыку нашай Радзімы».

**У ТЫЯ ДНІ, калі рабіўся гэты фотарэпартаж, жыхары Шчучынскага раёна жылі сваім галоўным клопатам: сабраць да апошняга клубня ўвесь ураджай бульбы. Людзі спяшаліся, даражылі кожнай мінутай. А надвор'е было звычайнае, восеньскае: то сонейка свеціць, то з неба сыпле дробны, амаль нябачны, нудны дожджык. Але, безумоўна, і іншыя справы не пакінуты без увагі ў гэтую гарачую пару. У саўгасе «Вялікае Мажэйкава» магло здацца, што трапляеш у... вясну. Уздоўж дарогі і далей, да самага лесу, кветкі — цэлыя дываны ярка-жоўтых рамонкаў. Іх тут вырошчваюць спецыяльна па заказу медыкаў. Сёлета гаспадарка адправіць у аптэкі 315 тон рамонкаў, валяр'яну, спарынні... Ёсць у шчучынцаў і сваё прадпрыемства, дзе вырабляюць сельскагаспадарчы інвентар. Другога такога ў Беларусі няма. Тут выпускаюць такія вырабы, як і сто гадоў назад: калёсы, драўляныя колы. Жыццё даказала, што адмаўляцца ад каня і калёсаў — не зусім разумна. Яны патрэбны ў кожнай гаспадарцы. 36 гадоў працуе на гэтым невялічкім заводзе Часлаў Рудзь. Днём у вёсцы ціха: усе заняты якой-небудзь справай — дарослыя працуюць, школьнікі вучацца, а малеча — у дзіцячых садах пад наглядам выхавальніц. Ажыве сялянская вуліца толькі ўвечары, калі таты і мамы закончаць працу і павядуць сваіх хлопчыкаў і дзяўчынак дахаты. Дарэчы, у калгасе імя Леніна, дзе зроблены адзін са здымкаў, даўно няма праблемы, куды ўладкаваць дзіця.**









**НА ЗДЫМКАХ: рабочы дзень закончаны. Крочаць дадому бацькі і іх дзеці; Часлаў РУДЗЬ і яго вырабы; настаўнік Алег САМАЛЁТАЎ; звычайны восеньскі малюнак.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# АМЕРИКАНСКИЙ ЛЕТОПИСЕЦ РУССКОЙ РЕВОЛЮЦИИ

**(К 100-ЛЕТИЮ СО ДНЯ РОЖДЕНИЯ ДЖОНА РИДА)**

Джон Рид родился в Портленде, США. Похоронен в Москве, у Кремлевской стены, на Красной площади. Учился в Гарвардском университете. Но главной его школой стала Великая Октябрьская социалистическая революция 1917 года. Он рассказал о ней в книге «Десять дней, которые потрясли мир» (Нью-Йорк, 1919).

«Прочитав с громаднейшим интересом и неослабевающим вниманием книгу Джона Рида,.. — писал Ленин, — я от всей души рекомендую это сочинение рабочим всех стран. Эту книгу я желал бы видеть распространенной в миллионах экземпляров и переведенной на все языки, так как она дает правдивое и необыкновенно живо написанное изложение событий, столь важных для понимания того, что такое пролетарская революция...».

Желание Ленина осуществилось. «Десять дней» издавались и переиздавались не только в СССР и США, но и в Англии, Франции, ГДР, Албании, Вьетнаме, КНР, Греции, Италии, Польше, Кубе, других странах. И сегодня эта книга по-прежнему волнует. И сегодня многие ее страницы нельзя читать без острого интереса.

Известные литераторы — Эптон Синклер, Шервуд Андерсон, Юджин О'Нил, Джеймс Олдридж, Ганс Шерфиг говорили о сильном впечатлении, произведенном на них книгой Рида. «Мне думается, — отмечал знаменитый американский писатель Джон Дос Пассос, — что долго еще и после того, как мы все умрем, эта книга будет считаться великой книгой».

Сегодня, в год 70-летия Великого Октября, эти слова подтверждаются. Книга Рида, запечатлевшая первые дни революции, одно из самых волнующих свидетельств величайшего события нынешнего столетия. Это не просто умело подобранный перечень бесстрастных фактов, документов, цифр. Это — галерея живо написанных исторических лиц, типичных сцен, ожесточенных споров.

Центральная фигура «Десяти дней» — Ленин. Вот как рассказывает Рид о выступлении вождя революции на ночном заседании Второго Всероссийского съезда Советов с 8 на 9 ноября 1917 года:

«Было ровно 8 часов 40 минут, когда громовая волна приветственных криков и рукоплесканий возвестила появление членов президиума и Ленина — великого Ленина среди них. Невысокая коренастая фигура, с большой лысой и выпуклой, крепко посаженной головой. Маленькие глаза, крупный нос, широкий благородный рот, массивный подбородок, бритый, но с уже проступавшей бородкой, столь известной в прошлом и будущем. Потертый костюм, несколько не по росту длинные брюки. Ничего, что напоминало бы кумира толпы, простой, любимый и уважаемый так, как, быть может, любили и уважали лишь немногих вождей,.. вождь исключительно благодаря своему интеллекту, чуждый какой [illegible] то ни было рисовки, не п[illegible]ющийся настроениям, твердый, непреклонный, без эффектных пристрастий, но обладающий могучим умением раскрыть сложнейшие идеи в самых простых словах и[illegible]ь глубокий анализ конк[illegible]ой обстановки при сочетании проницательной гибкости и дерзновенной смелости ума».

Американец Джон Рид — первый литератор, создавший портрет Ленина.

Борьба была жизнью этого неистового репортера. Жить — означало для него непрерывное движение вперед. Четыре месяца он провел в седле с повстанцами героя мексиканской революции Панчо Вильи и отразил увиденное в прекрасной книге «Восставшая Мексика». «Как-то неловко говорить человеку, с которым лично знаком, что он гений, — писал гарвардский товарищ Рида, популярнейший американский журналист Уолтер Липпман, прочитав его мексиканские очерки. — Я утверждаю, что настоящий репортаж начинается с Джона Рида».

В очерке «Война в Колорадо» Рид описал расстрел бастовавших горняков. Впечатление о первой мировой войне выразил в книге «Война в Восточной Европе». Но главным трудом его стали «Десять дней». С этой книгой он вошел в историю, навсегда вписав свое имя в летопись Октября.

Он скончался в Москве от тифа. Болезнь протекала тяжело из-за сердечной недостаточности и вследствие того, что у Рида была ранее удалена почка. Лучшие врачи не смогли спасти его, несмотря на все старания. Американского друга похоронили у Кремлевской стены, рядом с могилами героев русской революции.

Великая Октябрьская социалистическая революция захватила Джона Рида целиком и безраздельно. Он помогал ей до последних минут жизни. В то время, когда американские и европейские газеты азартно гадали о дне падения большевиков и разгроме восставшего пролетариата, Рид верил и писал о победе. Он был очень проницательным, этот замечательный американец, прекрасный журналист и талантливый писатель, с сердцем и душой пламенного революционера - интернационалиста.

**Гавриил ПЕТРОСЯН.**
(АПН).

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# СТАРШЫНЯ РЭЎКОМА

**«Грамата выдадзена Паўнамоцным прадстаўніком аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) па Беларускай ваеннай акрузе стойкаму вартавому пралетарскай рэвалюцыі памочніку начальніка 13-га пагранічнага атрада Усерасійскага аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (УАДПУ) па сакрэтна-аператыўнай часці (САЧ) таварышу Апанасевічу Івану Іванавічу ў тым, што Апанасевіч І. І. у азнаменаванне Х-й гадавіны пагранічнай аховы СССР узнагароджаны пісталетам сістэмы Каровіна № 47780. Намеснік паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ па Белваенакрузе Чарнобыльскі. 20 снежня 1930 года. № 64, горад Мінск».**

**Гэта грамата захоўваецца ў Клецкім дзяржаўным гісторыка-этнаграфічным музеі. Акрамя яе тут экспануецца і вышэйпамянёны пісталет з памятным надпісам. Маюцца шматлікія дакументы, граматы, фотаздымкі розных год, шынель і іншыя асабістыя рэчы І. Апанасевіча, якія расказваюць пра цікавае і яркае жыццё ганаровага чэкіста.**



І. Апанасевіч нарадзіўся 29 лістапада 1899 года (па старому стылю) у вёсцы Панкратавічы Клецкай воласці Слуцкага павета ў беднай сялянскай сям'і. «Бацькі мелі тры дзесяціны зямлі, аднаго каня, карову. Прычым свайго хлеба хапала толькі да лютага, а потым елі бульбяныя аладкі з дабаўленнем рознага шалупіння. Не было нават звычайнай газавай лямпы, а таму гарэла лучына», — напіша пазней Іван Іванавіч у сваёй аўтабіяграфіі.

Марачы пра лепшы лёс для сына, бацькі на апошнія сродкі ў 1913 годзе аддаюць яго ў Нясвіжскае вышэйшае пачатковае вучылішча.

Вестка аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўсталяванні Савецкай улады хутка абляцела Клецкую воласць. Іван Іванавіч прысутнічае на мітынгах, дзе з цікавасцю і адабрэннем абмяркоўваліся першыя дэкрэты — аб міры і аб зямлі, падтрымлівалася стварэнне ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў. Разам з невялікай групай бальшавікоў, што былі тады ў воласці, удзельнічае ў нацыяналізацыі памешчыцкай зямлі і стварэнні ў вёсках зямельных камісій. З канца 1918 года працуе ў валасным рэўкоме. Як народны настаўнік, многа робіць для адкрыцця школ, хат-чытальняў. Пры яго непасрэдным удзеле 14 лютага 1919 года выйшаў першы нумар газеты «Батрак» — орган Клецкай валаснай партыйнай арганізацыі КП(б)Б. Неўзабаве І. Апанасевіча клецкія бальшавікі прынялі ў свае рады.

Летам 1919 года маладога камуніста па партыйнай мабілізацыі прызвалі ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію. Служыў чырвонаармейцам у 13-м запасным палку ў горадзе Ельня Смаленскай губерні. Пасля вучобы на шасцітыднёвых курсах прызначылі палітруком палкавой школы.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

# НА ОДНОМ МЕСТЕ БОЛЕЕ ПОЛУВЕКА

— Сколько раз встречались вы лично в этих краях с медведем? — спрашиваю я у 83-летнего Олега Семенова - Тяншанского, внука знаменитого путешественника, старшего научного сотрудника Лапландского заповедника на Кольском полуострове, наслушавшись за время поездки сюда немало «охотничьих» историй.

— Таких встреч было не менее сорока, — отвечает он вполне буднично, как будто речь идет о самом что ни на есть рядовом акте. Впрочем для него, доктора биологических наук, посвятившего всю свою жизнь изучению фауны Крайнего Севера и проработавшего в одном месте без малого шесть десятилетий (в заповеднике он появился с момента его создания — в 1930 году), факт этот и на самом деле вполне рядовой. Хотя, понятно, каждая из таких встреч могла быть не только очередной, но и последней по счету...

Расположенный в центре полуострова Лапландский заповедник занимает площадь около трехсот тысяч гектаров. Так что осмотреть нам даже на одной только усадьбе Центрального лесничества удается совсем малую толику его территории. Правда, внук знамен[illegible]о путешественника, выс[illegible]ющий в роли гида, несмотря на преклонный, казалось бы, возраст, неутомим: свои «владения» готов демонстрировать хоть до [illegible] Чувствуется, что он по-[illegible]ящему влюблен в здешние места, которые сейчас, в пору короткого полярного лета, и впрямь необыкновенно красивы. Кругом — низкорослая, но полная какой-то особой пружинистой жизнестойкости зеленая северная тайга, из-за которой рукой подать (на самом-то деле это довольно далеко) до лысых буроватых плешек горной тундры.

— Фауна нашего заповедника, — начинает он привычным лекторским тоном, с которого, правда, весьма скоро сбивается и переходит на обычные разговорные интонации, — насчитывает 31 вид млекопитающих, два вида пресмыкающихся (видимо, северные холода не слишком способствуют их процветанию), 13 видов рыб и 168— птиц.

Последнюю цифру он произносит так, словно в ней есть и его личная заслуга. Кстати, это действительно так: сейчас он подготовил к изданию книгу о создании «режима наибольшего благоприятствования» для птиц Севера, в которой обобщены результаты его более чем полувековых наблюдений за пернатыми.

— Я рад, что у меня была такая уникальная возможность, — говорит О. Семенов-Тяншанский, — сравнить состояние «птичьих дел» сегодня с тем, что было здесь пятьдесят с лишним лет назад. За этот срок нашими усилиями в заповеднике удалось сделать многое: не только сохранить, но и приумножить богатства кольской фауны.

Птицы, продолжает он, его давняя любовь: он начал свои наблюдения еще в качестве синоптика в 1930 году, не думая тогда, по его словам, что они продлятся, по существу, всю жизнь. Чем только еще не пришлось ему за это время заниматься! И авиаучетом диких северных оленей (в дни закладки заповедника сохранившихся в этих местах только на его территории), и реакклиматизацией речного бобра и ондатры, и исследованием цикличности в популяциях полевок...

— Природа Крайнего Севера, сохраняемая у нас в ее первобытном, так сказать, виде, крайне ранима. А посему требует к себе особо бережного, я бы даже сказал, деликатного отношения. И работники Лапландского заповедника не только занимаются своей научной работой, но и — по мере сил — стараются воспитать в людях такое вот к ней отношение. Чтобы природу охранять, ее нужно любить. А чтобы любить — нужно знать. В своих лекциях, беседах, популярных брошюрах и книгах мы как раз и несем людям знания о флоре и фауне здешних мест, которые, увы, столь легко погубить. И какие-то плоды это приносит...

Как водится, «плоды» особенно ощущаются в критические моменты. Так было и несколько лет назад, когда над Лапландским заповедником нависла реальная опасность. Ее принес дым с расположенного в полусотне километров промышленного комбината «Североникель» в городе Мончегорске. Дело в том, что предприятие перешло на привозную руду, содержащую гораздо более высокий процент серных примесей, а технология очистки поначалу применялась прежняя, явно недостаточная с точки зрения экологии. Тут же забили тревогу активисты Мурманского областного совета Всероссийского общества охраны природы, местная пресса, радио, телевидение.

— Совместными усилиями удалось все же заставить хозяйственников внедрить в срочном порядке новую дорогостоящую технологию. (О. Семенов-Тяншанский, рассказывая об этой истории, по скромности умалчивает, что далеко не последним в ней был и его голос. 10 октября 1980 года в газете «Правда» появилась его статья с тревожным заголовком: «Висит дым над заповедником», сразу же привлекшая внимание широких общественных кругов страны к локальной, казалось бы, беде на Кольском полуострове). И все-таки часть заповедника непоправимо пострадала. Вы, наверное, по пути к нам обратили внимание на мертвые деревья, «обгоревший» мох, голый кустарник? Это все его «работа», черного дыма-убийцы....

В первый раз я вижу в его добрых и даже несколько наивных голубоватых глазах гневные искорки. Чувствуется, что этот человек, отдавший всю свою жизнь делу охраны природы, никогда не простит небрежения к ней, никогда не перестанет прилагать усилия, чтобы защитить ее.

**Юрий КАЦНЕЛЬСОН.**
(АПН).

НАТАТКІ ЖУРНАЛІСТА З XI РЭСПУБЛІКАНСКАГА СЕМІНАРА-НАРАДЫ ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ

# УСЕ МУЗЫ—НА НЁМАНЕ

Хоць і стаміліся з дарогі, але роўна апоўначы ўдзельнікі семінара сабраліся ў зале. На сцэне з'явіўся імправізаваны рэквізіт, і неўзабаве пачаўся спектакль, нядаўняя прэм'ера Рускага драматычнага тэатра БССР «Начныя карлікі і Антыгона» па п'есе С. Разумоўскай.

...Дзесяцікласнікі прыйшлі да сваёй настаўніцы, каб павіншаваць яе з днём нараджэння. Мілыя, сімпатычныя падлеткі прынеслі кветкі і падарунак. Аднак па ходу дзеяння высвятляецца, што візіт вучняў зусім небескарыслівы. У чым жа справа? Аказваецца, учора ў класе была кантрольная работа. Адзін юнак зусім нічога не здолеў напісаць., бо не меў магчымасці спісаць у сябра, як заўсёды. Другі зрабіў работу з памылкамі. Абодвум жа трэба добрая адзнака: збіраюцца паступаць у інстытут. Без асаблівых маральных ваганняў госці пачынаюць пераконваць настаўніцу ў тым, што яна павінна даць ім сшыткі, пакуль іх не праверылі члены камісіі. Цынічныя «філосафы» наладжваюць сапраўдны вобыск у кватэры, шукаючы ключ (які адмовілася даць ім настаўніца) ад таго сейфа, дзе павінны ляжаць іх сшыткі.

Больш за дзве гадзіны ішоў спектакль. Маладыя акцёры ігралі для маладзёжнай аўдыторыі. І быў шок. Зала напружана маўчала, нібы яе аблілі халоднай вадой. Сама сітуацыя, увогуле ўвасобленая на сцэне даволі рэалістычна, выклікала ўнутраны пратэст, абурэнне. Усё ўбачанае трэба было яшчэ асэнсаваць.

Разыходзіліся моўчкі: здзіўленыя, раззлаваныя, узрушаныя.

Вось так, бадай што, нетрадыцыйна пачаў сваю работу XI рэспубліканскі семінар-нарада творчай моладзі. Кожная вобласць прыслала сюды сваіх дэлегатаў — пачынаючых музыкантаў, паэтаў, кампазітараў, літаратараў, архітэктараў, мастакоў і артыстаў. Сярод запрошаных былі студэнты, а таксама і прадстаўнікі так званых нефармальных аб'яднанняў — клубаў, студый, гурткоў. Словам, самыя розныя слаі сучаснай моладзі.

Хто з іх ходзіць у лідэрах, адразу і не вызначыш. Уласна кажучы, для таго і прыехалі, каб бліжэй пазнаёміцца, абмеркаваць агульныя праблемы, што стаяць перад імі ў жыцці і мастацтве.

Першы дзень — дзень знаёмстваў. Сёння мы едзем на экскурсію ў Гродна. Дзе аўтобусам, дзе пешкі падарожнічаем па гораду. У абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў сустрэліся з літаратарам Аляксеем Карпюком, а ў музеі Максіма Багдановіча — з паэтэсай Данутай Бічэль-Загнетавай. Усяго паўгадзіны правялі ў музеі атэізму і рэлігіі, і зноў трэба спяшацца далей, на адкрыццё выстаўкі мінскіх мастакоў: ужо вядомага Міколы Селешчука і пачаткоўца, студэнта першага курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Уладзіміра Шаркова. Пасля абеду — паездка ў гродзенскі Дом дзіцяці. Гэта адна з грамадскіх акцый семінара. Яе мэта — прыцягнуць усеагульную ўвагу да такой нецярпімай з'явы, як кінутыя бацькамі дзеці. У Дом дзіцяці адправіліся мастакі і артысты, каб паказаць малым канцэрт і падарыць свае карціны. Аднак на гэтым справа не скончылася. Маладыя мастакі прапанавалі адміністрацыі Дома дзіцяці сваю бескарыслівую дапамогу ў афармленні пакояў будынка. Пагадненне было заключана.

Я не буду затрымліваць увагу чытача пераказам таго, што адбывалася на працягу пяці дзён семінара. Як журналіст, я імкнулася нічога не прапусціць: ні лекцый па актуальных пытаннях, ні паездак у калгас і на завод, ні гарачых спрэчак, што называецца, у кулуарах, ні культурных праграм, якія ў асноўным пачыналіся пасля поўначы, бо дня ніяк не хапала.

Што ж найбольш хвалюе творчую моладзь 80-х гадоў? Перагортваю блакнот з запісамі.

**Рэпліка з залы мастака Р. Сітніцы ў час дыскусіі па праблемах эканомікі:**

— Мы не крытыканы. Проста ёсць жаданне разабрацца ў сутнасці перабудовы ў сферы эканомікі.

**З выступлення мастацтвазнаўцы, члена маладзёжнай секцыі Саюза мастакоў БССР Т. Гаранскай:**

— Праблемы духоўнасці, агульнай культуры грамадства самым непасрэдным чынам звязаны з эканомікай. Таму вельмі многае залежыць сёння ад мастацтва.

**З выступлення паэтэсы І. Багдановіч:**

— Часта знаходзімся на нулявым узроўні нацыянальнай свядомасці.

**З выступлення сакратара Саюза пісьменнікаў БССР В. Зуёнка:**

— Маладой беларускай літаратуры не хапае сацыяльнасці, абвостранага пачуцця часу.

**Рэпліка з залы:**

— Мы сюды прыехалі не адпачываць, а працаваць. Трэба вызначыць задачы, якія стаяць сёння перад мастацтвам.

**З выступлення мастацкага кіраўніка Белдзяржфілармоніі Ю. Гільдзюка:**

— Няма такога паняцця, як маладзёжная музыка. Але ёсць — масавая культура.

Ужо пасля заканчэння семінара, аналізуючы свае шматлікія запісы, найбольш яркія ўражанні ад сустрэч, зноў прыгадала той дзень, калі ў госці да семінарыстаў прыехалі адказныя партыйныя работнікі Гродзеншчыны, прафесар, доктар эканамічных навук Ф. Дронаў, вучоныя П. Макараў і А. Кароль. Завязалася сур'ёзная размова аб праблемах, якія стаяць сёння перад працоўнымі вобласці, яе творчай інтэлігенцыяй. З асаблівай увагай слухала аўдыторыя лекцыю кандыдата гістарычных навук А. Караля па такой, здавалася б, хрэстаматыйнай тэме: «Перамога Вялікага Кастрычніка. Крушэнне ідэалогіі і палітыкі беларускага нацыяналізму і сіянізму». Дарэчы, паважаны вучоны ў якасці госця прымаў удзел у многіх мерапрыемствах семінара, адказваў на шматлікія пытанні па гісторыі Беларусі.

— З майго боку тут не было ніякага заігрывання з моладдзю, — выказаў свае адносіны да семінара А. Кароль. — Было нават цікава самому. Праўда, здзівіла і насцярожыла тое, што частка моладзі даволі дрэнна ведае нашу гісторыю, не арыентуецца ў палітыцы. А людзі мастацтва — да таго ж яшчэ і работнікі ідэалагічнай сферы. Мастацтва ніколі не было па-за палітыкай. І тым больш не можа стаяць убаку сёння, калі ў нашым грамадстве ідзе сапраўды рэвалюцыйная перабудова.

Наогул жа мне вельмі сімпатычныя гэтыя энергічныя юнакі і дзяўчаты. Падабаецца іх смеласць, адкрытая і актыўная грамадзянская пазіцыя. З уласцівым маладосці максімалізмам, які нават пераходзіць часам у экстрэмізм, яны кідаюцца ў бойку за сваё перакананне. Але ж пры гэтым забываюцца, што весці палеміку — гэта майстэрства і эмоцыі часта адыгрываюць адмоўную ролю.

І яшчэ. Семінар пераканаў мяне: нам усім неабходна пашыраць кола зносін, выходзіць за рамкі толькі сваёй вузкапрафесійнай сферы. На мой погляд, прысутнасць на семінары маладых вучоных прынесла б карысць усім — і творчай, і навуковай моладзі.



Палац культуры і тэхнікі «Нафтавік» упрыгожыў цэнтр горада Рэчыцы. Будаваць яго дапамагалі самі гараджане, дружна працуючы на суботніках і нядзельніках. У новым Палацы дзве глядзельныя залы з кінаўстаноўкамі, спартыўная зала з трыбунамі для гледачоў, прасторныя памяшканні для заняткаў тэматычных клубаў і гурткоў мастацкай самадзейнасці.

НА ЗДЫМКАХ: Палац культуры і тэхнікі «Нафтавік» у Рэчыцы; першая рэпетыцыя на новай сцэне рок-групы «Магічны крышталь». У яе складзе — вышкамантажнік Уладзімір ЦІХАНОВІЧ, электраманцёр Мікола КУЗНЯЦОЎ, інжынер-геафізік Сцяпан ВАСЕРШТРОМ, стваральнік і кіраўнік групы Уладзімір КРАЎЧАНКА.

Фота І. ЮДАША.



НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ КУЛЬТУРЫ Ў СССР: ШЛЯХ У 70 ГАДОЎ

# САМАЯ ШЧЫРАЯ ПРАЎДА

У 1983 годзе ў Нарвегіі адбылася нарада экспертаў ЮНЕСКО на тэму: «Культурныя правы нацыянальных меншасцей Еўропы». У рэкамендацыях заключнага дакумента ўрадам еўрапейскіх краін прапаноўвалася адшукаць фінансавыя сродкі для стварэння пісьменнасці малых народаў, арганізаваць выданне падручнікаў і арыгінальных кніг на родных мовах, падтрымліваць фальклорныя ансамблі.

У час абмеркавання дакумента высветлілася, што ўсе прапановы, якія тут разглядаліся, знайшлі адлюстраванне ў Савецкай Расіі ўжо ў першых ленінскіх дэкрэтах, замацаваны ў Канстытуцыі СССР. Усё, што прапаноўваецца, не толькі ажыццёўлена, але і ў многім перасягнута.

З народаў і народнасцей, якія насялялі царскую Расію, пяцьдзесят атрымалі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі пісьменнасць і магчымасць ствараць сваю літаратуру. І нацыянальныя літаратуры працягваюць нараджацца. Сёння яны ствараюцца на 78 мовах народаў СССР. У 1981 годзе культработніца з Лавазёрскай тундры Акцябрына Воранава напісала першы верш на мове саамаў (іх у СССР каля 2 тысяч чалавек). А нядаўна выйшаў зборнік яе твораў — першых мастацкіх твораў новай літаратуры.

Ансамбль «Мэнга» аб'ездзіў амаль усю Еўропу, знаёмячы гледачоў з невядомым да гэтай пары самабытным мастацтвам каракоў (каля 8 тысяч чалавек).

«Калі я пабываў сярод якутаў, чукчаў, эвенкаў і ўбачыў, што дасягнута на Поўначы за гады Савецкай улады, — прызнае вядомы канадскі пісьменнік і падарожнік Фарлі Моуэт, — я адчуў глыбокі сорам за сваю краіну... Раўнапраўе рас і нацыянальнасцей, відавочнае на прыкладзе савецкай Поўначы, паказвае, што гэта не гучныя фразы, а самая шчырая праўда».

Можа стварыцца ўражанне, што Кастрычніцкая рэвалюцыя памагла толькі малым народам, якія не мелі сваёй пісьменнасці і мастацтва. Менавіта гэта сцвярджаюць нашы ідэалагічныя апаненты, спасылаючыся на векавыя культурныя традыцыі грузін, эстонцаў, армян, літоўцаў...

Грузінская мова сапраўды належыць да старажытнапісьменных. Аднак да рэвалюцыі 1917 года амаль 90 працэнтаў насельніцтва не чытала па-грузінску. Кола чытачоў грузінскай літаратуры абмяжоўвалася толькі грузінамі. Сёння ж кнігі грузінскай літаратуры дзякуючы перакладам чытаюць ва ўсіх кутках СССР, з імі знаёмяцца і за мяжой. Грузінскі тэатр выклікае авацыі ў Вялікабрытаніі, Мексіцы, Грэцыі...

Класік эстонскай літаратуры Антон Тамсаарэ дарэмна марыў аб перакладзе сваіх кніг на іншыя мовы. Сёння яго чытаюць у казахстанскіх вёсках, а на Чарнаморскім узбярэжжы Каўказа, каля Сочы, ствараецца музей пісьменніка. Штогод на мовах народаў СССР публікуюцца прыблізна 60-80 кніг у перакладзе з эстонскай.

На мовах народаў СССР выдадзены багатыя зборы твораў рускай і сусветнай літаратуры, і народы з недастаткова развітай у мінулым культурай, як і народы з глыбокімі культурнымі традыцыямі, у поўную сілу ўдзельнічаюць у агульнасаюзным культурным працэсе.

Савецкае мастацтва сёння немагчыма ўявіць без дасягненняў эстонскага балета, кіргізскага і літоўскага кіно, армянскай школы жывапісу, дагестанскай паэзіі. «Сёння, — падкрэслівае адзін з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў СССР, галоўны рэдактар часопіса «Дружба народов» Сяргей Баруздзін, — можна гаварыць аб сур'ёзным уплыве на рускую прозу, напрыклад, грузінскага рамана, беларускай і эстонскай аповесці, армянскага апавядання.

Факты застаюцца фактамі. І яны становяцца вядомымі ўсё большай колькасці людзей: развіваюцца міжнародныя культурныя кантакты, больш частымі становяцца замежныя гастролі калектываў з саюзных рэспублік. І вось адзін з вынікаў. У 1967 годзе саветолаг А. Бенігсен пісаў, што сапраўдная мэта культурнай палітыкі СССР на Усходзе заключаецца «ў поўным знішчэнні традыцыйнай культуры і замены яе рускай». Сёння той жа Бенігсен з-за неабвержнасці вядомых фактаў вымушаны пісаць аб «геркулесавай працы Савецкай улады ў развіцці нацыянальных культур мусульман».

Вядома, у развіцці нацыянальных культур у СССР былі і існуюць сёння праблемы. Але галоўнае застаецца галоўным — дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Савецкім Саюзе няма цяпер ні адсталых народаў, ні адсталых культур.

(АДН).

Тым больш, што на семінары я адчуў вялікую цікавасць і да гісторыі, і да эканомікі, і да філасофіі з сацыялогіяй.

Адкрыцці семінара... Іх было нямала. Гэта і юны бард з Віцебска Таццяна Ліхавідава, і гродзенскі кампазітар Андрэй Бандарэнка, аўтар Струннага квартэта, рэжысёр коласаўскага тэатра Ігар Баярынцаў, кампазітары з Мінска Сяргей Більдзюкоў і Алег Елісеенкаў, студэнты Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Сяргей Еўлампіеў і Алег Ляшкевіч. Дарэчы, пра дваіх апошніх: нядаўна яны сталі пераможцамі традыцыйнага міжнароднага мастацкага конкурсу студэнцкіх работ імя Херба Лубаліна ў Нью-Йорку. Конкурс праводзіўся ўжо трэці раз карпарацыяй Ай-ці-сі. Ён сабраў рэкордную колькасць удзельнікаў — 1 100 чалавек з 32 дзяржаў свету. Хлопцы з Беларусі аказаліся на ўзроўні.

З задавальненнем прыгадваюцца цяпер дні, праведзеныя на беразе Нёмана. Вершы, музыка, карціны. Чыстыя памкненні, жаданне зрабіць свет і чалавека лепшымі... Ці можа быць мэта вышэй?

Які ж плён семінара-87? Ці ўсё ўдалося? Адказаць на гэтыя пытанні я папрасіла старшыню Савета творчай моладзі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, галоўнага рэжысёра Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага Валерыя Маслюка.

— Я думаю, што сёлетні семінар-нарада меў даволі канструктыўны характар. Сустрэлася разам творчая моладзь усіх жанраў мастацтва. Кожны меў свой дзень, мог абмеркаваць свае прафесійныя справы, а разам з тым паслухаць, чым жа жывуць іх калегі. Але ніхто не замыкаўся толькі на мастацтве: вельмі зацікаўлена ўдзельнічалі ў дыскусіях па праблемах эканомікі, ездзілі ў калгасы, на заводы, давалі там канцэрты.

Праўда, на мой погляд, была і залішняя заарганізаванасць. Ну проста ні хвіліны вольнага часу! А навокал жа такія краявіды, такая паэзія...

А ўвогуле наш семінар быў змястоўным і цікавым, думаю, што яго ўдзельнікі атрымалі не толькі шмат карыснай інфармацыі, але і мноства ўражанняў ад сустрэч і знаёмстваў, моцны духоўны зарад на творчасць і здзяйсненні.

**Таццяна АНТОНАВА.**





**НА ЗДЫМКАХ: у выставачнай зале работы маладых мастакоў; на экскурсіі ў музей атэізму і гісторыі рэлігіі.**

**Фота І. ІВАНОВА.**

**СТВОРАНА ЎСЕСАЮЗНАЕ ДЖАЗАВАЕ АБ'ЯДНАННЕ**

# ПРАГНОЗ НА ЗАЎТРА

Нядаўна ў Маскве адбыўся арганізацыйны сход Усесаюзнага джазавага аб'яднання. Гэта новае самастойнае падраздзяленне Асацыяцыі аматараў музыкі, якая дзейнічае пры Музычным таварыстве СССР. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі многіх гарадоў краіны, у тым ліку і Мінска. Абмеркаваць надзённыя праблемы сабраліся старшыні джаз-клубаў, арганізатары джазавага жыцця, музыканты, крытыкі, педагогі. Быў зацверджаны праект палажэння і выбрана рабочае бюро джазавага аб'яднання, якое ўзначаліў заслужаны работнік культуры РСФСР, кіраўнік Маскоўскай студыі мастацтва музычнай імправізацыі Ю. Козыраў.

— Нашы асноўныя мэты і задачы,— растлумачыў Юрый Паўлавіч,— гэта аб'яднанне і каардынацыя дзейнасці джаз-клубаў, студый, калектываў і выканаўцаў, садзейнічанне актывізацыі гастрольна-канцэртнай дзейнасці прафесіянальных і аматарскіх калектываў, арганізацыя і правядзенне фестываляў і конкурсаў, распрацоўка і ўкараненне новых форм і метадаў навучання джазавай музыцы, расшырэнне кантактаў з зарубежнымі джазавымі арганізацыямі.

Пакуль што сказанае — планы. Сёння ж у саюзных рэспубліках пачата работа па стварэнню аддзяленняў таварыства, членамі якога могуць быць як асобныя музыканты і аматары джаза, так і дзяржаўныя і грамадскія прадпрыемствы, установы, канцэртныя арганізацыі. Члены УДА змогуць вучыцца на курсах, у студыях, атрымаюць прыярытэтнае права ў набыцці нот, музычных інструментаў, апаратуры, удзельнічаць у розных мерапрыемствах, праводзімых аб'яднаннем. Прадугледжана таксама выданне спецыяльнай метадычнай літаратуры, пласцінак.

Цяпер у Беларусі рэгулярна праводзяцца два джаз-фестывалі ўсесаюзнага прадстаўніцтва — «Віцебская восень» і Дні фартэпіяннага джаза. УДА зможа ўзяцца за іх арганізацыю і фінансаванне, дапамога зрабіць больш разнастайнай праграму, падрыхтаваць лекцыі, канферэнцыі, творчыя майстэрні па абмену вопытам. Найбольш актыўныя члены таварыства атрымаюць ільготы пры наведванні канцэртаў, а калектывы выканаўцаў, якія ўваходзяць у аб'яднанне, будуць накіроўвацца на фестывалі за кошт гэтай арганізацыі. УДА, відаць, возьме пад сваю апеку ствараемую ў Мінску джазавую студыю з трохгадовым курсам навучання, у аснову работы якой ляжа дваццацігадовы вопыт масквічоў.

У бліжэйшыя дні палажэнне і статут УДА будуць зацверджаны прэзідыумам Музычнага таварыства СССР, а ў канцы студзеня 1988 года ў Маскве намечана правядзенне ўстаноўчай канферэнцыі Усесаюзнага джазавага аб'яднання, пасля чаго намечанае пачне ўвасабляцца ў жыццё.

**Д. ПАДБЯРЭЗСКІ.**

***У ВІЦЕБСКУ ПРАЙШЛО СВЯТА НАРОДНА-ІНСТРУМЕНТАЛЬНАЙ МУЗЫКІ***

# КАБ НЕ ЗМЯЛЕЛА КРЫНІЦА

Такое свята праводзілася ўпершыню. На ім гучала народна-інструментальная музыка, а называлася яно — «Звіняць цымбалы». Дудкі з Капыля, балалайкі з Полацка, гармонікі з Клімавіч, домры з Пружан. І вядома ж, цымбалы. Яны — адусюль, бо папулярныя ў кожным раёне. Прыехалі дзяды з вёскі Груздава Пастаўскага раёна і маленькія цымбалісты з Гомельскага Палаца піянераў, студэнты з Баранавіч, Ліды і Мазыра і настаўнікі з Бабруйска, навучэнцы прафесійна-тэхнічных вучылішчаў з Мінска і рабочыя са Смаргоні. Сустрэліся тут усе пакаленні і прафесіі. Адным словам, з усіх куткоў Беларусі з'ехаліся ў Віцебск самадзейныя музыкі.

З самага ранку па горадзе паехалі прыгожа ўбраныя музычныя трамвайчыкі і тройкі коней, у якіх размясціліся ансамблі музыкантаў і скамарохі-зазывалы.

Твары людзей расцвіталі ўсмешкамі, многія адразу павярочвалі на плошчу Свабоды, куды іх запрашалі. Тым часам па горадзе пайшло святочнае шэсце, у якім прынялі ўдзел народныя музыкі і майстры, персанажы беларускіх казак, маскі і лялькі. Шэсце накіравалася на плошчу, дзе ўсіх чакалі аркестравыя калектывы. У цэнтры плошчы, на вялікай эстрадзе, прымаў гасцей Гусляр, які адкрыў свята пад пераборы струн:

**Хай жа свята гудзе, як**
**вясною рака,**
**Што адчула прастор**
**небывалы.**
**Грай, жалейка, гучы, нібы**
**спеў жаўрука,**
**І звініце, звініце, цымбалы!**

І заляцела на плошчу пяшчотная «Перапёлачка» ў выкананні беларускіх жалеек і скрыпак а ўслед ударылі 700 цымбал «Лявоніху». А потым кожная вобласць дэманстравала сваё музычнае багацце.

Адкрыла свята гаспадыня, Віцебская вобласць. Яе прадставіў гасцям Несцерка. Тут, на Віцебшчыне, цымбалы ў пашане здаўна. Ёсць раёны, дзе амаль у кожнай вёсцы ўласны ансамбль музыкантаў, свае майстры па іх вырабу. Возьмем вёску Груздава. Тут граюць амаль усе. І цымбалы ў кожнай хаце ёсць: старадаўнія, дыятанічныя. Аркестр з Груздава прыехаў на свята ў поўным складзе. У ім іграюць тры пакаленні вяскоўцаў. Старэйшаму музыку за 70 гадоў, малодшаму — 10.

Традыцыі ігры на цымбалах працягвае і моладзь. У фестывалі прыняў удзел цымбальны аркестр Віцебскага музычнага вучылішча, адзін з лепшых сярод калектываў музычных устаноў. Ён віртуозна выканаў «Танец скамарохаў» Чайкоўскага. А песню Л. Захлеўнага «Галасы зямлі» праспявала Т. Кузняцова ў суправаджэнні аркестра Полацкага раённага Дома культуры.

Са сваёй скрыпкай прыйшоў на свята Сымон-музыка. Ён прадставіў музыкантаў Магілёўшчыны. З далёкага Клімавіцкага раёна прыехаў аркестр народных інструментаў. Прынялі ўдзел у свяце і госці з Прыбалтыкі. «Літоўскія напевы» выканала капэла народных інструментаў Дома работнікаў асветы з Каўнаса, абрадавыя песні латышоў — дружына народных традыцый «Будэлі» Латвійскага дзяржаўнага універсітэта імя П. Стучкі.

А свята працягвалася. Слова бяра Каваль-Вярнідуб. Ён прывёз таленты з Брэстчыны: малады цымбальны аркестр Баранавіцкага музычнага вучылішча і аркестр Пружанскага Дома культуры.

Выступленне Гомельскай вобласці абвясціў Дзед Талаш. Быццам бы кветкамі заззяла плошча: на сцэну выбеглі хлопчыкі і дзяўчынкі ў прыгожых нацыянальных уборах. Гэта ўдзельнікі дзіцячага ансамбля Гомельскага Палаца піянераў і школьнікаў імя Леніна, яны выканалі музычна-харэаграфічную кампазіцыю «Кабетка». А потым у спаборніцтва ўступілі народныя аркестры з Мазыра і Гомеля.

На сцэну выходзіць гарэзлівая Паўлінка. Яна прадстаўляе Мінскую вобласць. Ніхто не змог устаяць на месцы, калі зайгралі капыльскія дудары. І не дзіўна: добрыя тут музыканты! Ансамбль існуе 30 гадоў, а традыцыі ігры на дудках у гэтых мясцінах — яшчэ больш. Умела развівае іх дырэктар музычнай школы Валянцін Мотуз, які і кіруе ансамблем. У школе ён арганізаваў абучэнне ігры на дудках і жалейках, тут жа створаны і музей беларускіх народных інструментаў, дзе побач з дудкамі і цымбалы, і салавей, і скрыпкі. Ёсць нават скрыпка вядомага беларускага паэта Адама Русака, які быў родам з гэтых мясцін.

Трэці калектыў, які прадстаўляў Міншчыну, — ансамбль «Крупіцкія музыкі» з калгаса «Новы быт». Гэта маладыя, але надзвычай цікавы ансамбль, які займаецца адраджэннем фальклору свайго раёна. Тут іграюць на ўсіх вядомых нам сёння нацыянальных беларускіх інструментах: ліры, жалейцы, басэтлі, дудзе і іншых. Шмат ударных: рубель, бразготкі, вугольнік, барабаны. З майстэрствам калектыва знаёмы ў ГДР, Югаславіі, зараз калгасныя артысты рыхтуюцца да паездкі ў Індыю.

А на эстрадзе нашы добрыя знаёмыя Лявон з Лявоніхай. Яны прынеслі гродзенскі спеў ад Нёмана-ракі. Яго адкрыў «Святочнай уверцюрай» Д. Смольскага цымбальны аркестр Лідскага музычнага вучылішча, прадоўжыў ансамбль фальклорнай музыкі Палаца культуры «Юнацтва» з Гродна, паказаўшы музычную кампазіцыю «Як ходзіць воран», заснаваную на народных мелодыях Гродзеншчыны. Шчырае выкананне, прыгожыя ўборы вельмі спадабаліся слухачам. Дарэчы, гэты ансамбль нядаўна прадстаўляў беларускае мастацтва на Міжнародным фестывалі ў Афінах. Цікавым было і выступленне інструментальнай групы ансамбля «Пралі-ца», і песні ў выкананні дзяўчат з культасветвучылішча, ігра старэйшага ў вобласці цымбальнага аркестра са Смаргоні.

...А тым часам у горадзе развярнуліся гандлёвыя рады святочнага кірмашу. Чаго толькі не было тут! І беларускія сувеніры, і нацыянальныя стравы, і розныя прамысловыя вырабы фабрык і аб'яднанняў Віцебска. Але асаблівую цікавасць выклікала прадмесце народных майстроў, што адкрылася тут падчас свята.

— Свае ўмельства дэманстравалі ў прадмесці, — расказвае галоўны рэжысёр фестывалю заслужаны работнік культуры БССР Уладзімір Таран, — майстры разьбы па дрэву і пляценню з саломы, ткачыхі і вязальшчыцы карункаў, ганчары. Асабліва шмат людзей сабралася каля майстроў музычных інструментаў, якія прывезлі свае дудкі, жалейкі, цымбалы. Каля іх цэлы дзень быў натоўп, бо можна было не толькі паглядзець, але і паслухаць, і паспрабаваць зайграць самому.

Фестываль пацвердзіў вялікую цікавасць да нацыянальных інструментаў і выявіў патрэбу ў іх. Так узнікла ідэя: аб'яднаць усіх майстроў пад кіраўніцтвам музычнага таварыства, якое нядаўна створана ў нас у рэспубліцы, каб інструменты, якія яны будуць вырабляць, забяспечылі гэтую патрэбу.

Скончылася свята маляўнічай воднай феерыяй на Заходняй Дзвіне. Амаль увесь горад сабраўся на яе беразе.

Думкамі аб перспектывах фестывалю народнай музыкі падзялілася галоўны дырыжор свята М. Казінец: «Яно паказала вялікую, шчырую цікавасць людзей да народнай музыкі. Калі ў час канцэрта на плошчы я глядзеў на аматараў-музыкантаў і бачыў іх натхненне, іх самааддачу, калі глядзеў на вясёлыя твары слухачоў, што падтанцоўвалі ў такт музыцы, то думаў: «І чаму ж гэта мы не рабілі такога раней? Я лічу, што такія святы павінны стаць у нас традыцыйнымі, раз у два ці тры гады. Напэўна, іх праводзіць трэба ў розных гарадах, тым больш, што кожная вобласць у нас мае і свае добрыя аркестры, і свае выканаўчыя традыцыі. Правядзенне фестываляў яшчэ больш стымулюе развіццё народнай інструментальнай музыкі, дазволіць усім яе прыхільнікам пазнаёміцца з музычнымі здабыткамі самадзейных калектываў. Мяркуем падключыць і прафесійныя народныя аркестры. Бо галоўная наша мэта — каб не змялела крыніца нашай музычнай спадчыны».

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ.**







Славіцца беларускае Палессе самабытным народным мастацтвам. Неглюбскае і мотальскае ткацтва, мазырская кераміка, хойніцкае саломапляценне і, вядома, разнастайныя вырабы з дрэва. Палескія бондары, лыжачнікі, рэзчыкі па дрэву даўно зарэкамендавалі сябе незвычайнымі майстрамі. Ветка — невялікі гарадок над ракой Сож, у асноўным аднапавярховы. Дамы тут прасторныя, рубленыя з смалістай сасны ці складзеныя з белай цэглы, пад шыфернымі дахамі. Ідзеш па вуліцы, і глядзяць на цябе скрозь зеляніну палісаднікаў люстраныя вокны ў прыгожых разных ліштвах. Ажурныя карункі фрызаў упрыгожваюць тарцы дахаў і казыркоў над веснічкамі і варотамі. Ды і самі вароты зроблены незвычайна: у выглядзе арнаменту, упрыгожаны накладнымі разнымі ўзорамі. Фасад — гэта твар дома, і кожны стараецца, каб ён быў прывабным, радаваў сваёй прыгажосцю і саміх жыхароў, і прахожых. Дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці Фёдар Шкляраў і старшы навуковы супрацоўнік Галіна Нячаева, якія даўно вывучаюць майстэрства рэзчыкаў па дрэву, расказалі аб тых, хто ўпрыгожваў дамы ў былыя часы, і аб маладых майстрах, хто стварае драўляныя карункі сёння.

**НА ЗДЫМКАХ:** майстры-рэзчыкі па дрэву (злева направа) Барыс МІХАЛЕНКА, браты Пётр і Леанід ГРЫБАЎСКІЯ; гэта драўляная птушка ўпрыгожвае [illegible]к даху дома Ф. Шклярава; казачнай прыгажосці л[illegible] і аканіцы — работа А. КУШНЕРАВА.

Фота і тэкст Я. КАЗЮЛІ.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

## АДКУЛЬ БАРАЎЦЫ Ў БАРАЎЦАХ

Часта бываючы ў адной з Купалавых мясцін — вёсцы Бараўцы, што за чатырнаццаць кіламетраў ад Мінска, я звярнуў увагу, што тут шмат жыве людзей з прозвішчам Баравец. Падумалася: першыя пасяленцы на гэтай мясціне былі Бараўцы, таму і вёска атрымала такую назву. Аднак пачуў пра гэта зусім іншае.

Нібыта даўней у Бараўцах жылі адны Асіновічы. А такое прозвішча меў і якісь пан з-пад Бяларучаў ці саміх Бялынічаў. Дачуўся ён, што бараўскія людзі Асіновічамі завуцца. Не ўпадабаў ён гэтага. Як гэта так, каб нейкія лапатнікі ды аднаго з ім прозвішча былі. Ну і пастараўся перад кім трэба, каб бараўскіх людзей перапісалі на прозвішча Баравец. Вось з той пары і пайшлі ў Бараўцах адны Бараўцы.

Гэтае паданне мы пачулі ад Міхала Бараўца, аднаго са старэйшых жыхароў Бараўцоў.

У. СОДАЛЬ.

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

## ЛЯ СТАРОГА БЛІНДАЖА

Іду, а на ўзлеску шустры ветрык гойсае: паківае галінку то на ялінцы, то на ядлоўцы, страсяне шышшыну і знікае на хвіліну-другую.

У глыбіні лесу і спакой, і цішыня. Толькі час ад часу яе парушае працяглы, гучны свіст дразда.

Набліжуся да глыбокай, як лёха, ямы старога бліндажа. Ад яго ў двух напрамках адыходзілі зігзагам зарослыя акопы — сумны напамінак першай сусветнай вайны.

З днішча бліндажа, прытуліўшыся адна да адной, растуць бяроза і хвоя. Калісьці ветрык занёс сюды іх насенне, кінуў у бліндаж, і вось жывуць памяркоўна, толькі навыперадкі спяшаюцца да сонца, таму і ўзнесліся так высока.

Відаць, адпачыўшы ў гушчары, ветрык зноў выскачыў на ўзлесак, зазірнуў у бліндаж, прабег па зеляніне: лісце затрапятала, і майму зроку адкрылася мноства чырвоных ягад. Яны, як завушніцы, ківаліся пад лісцямі сунічніку і пераліваліся ў промнях вячэровага сонца.

Я. КРАМКО.

# СТАРШЫНЯ РЭЎКОМА

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

Трывожна было ў той час у Ельненскім павеце. Шматлікія банды рабавалі і тэрарызавалі насельніцтва, перашкаджалі ажыццяўленню сацыялістычных пераўтварэнняў. І. Апанасевіча, як кіраўніка стралковага атрада, накіроўваюць для барацьбы з бандытамі.

У маі-чэрвені 1920 года Чырвоная Армія наступала на Заходнім фронце. Па заданню ЦК КП(б) Літвы і Беларусі І. Апанасевіча пакідаюць на рабоце ў Клецкім рэўкоме. У мандаце Слуцкага павятовага рэўкома, выдадзеным на яго імя, гаварылася, што «таварыш Апанасевіч зацвярджаецца на пасаду члена Клецкага валаснога выканкома і што яму даецца права насіць зброю». А неўзабаве ён узначаліў валасны выканком.

Усталяваўшы Савецкую ўладу, валвыканком заклікаў грамадзян захоўваць у мястэчку Клецк і вёсках рэвалюцыйны парадак, берагчы народную маёмасць, не дапускаць антысавецкіх дзеянняў. Партыйная тройка, створаная ў воласці, наладжвала дзейнасць партыйнай арганізацыі, якая выйшла з падполля. Газета «Звязда» ў верасні 1920 года пісала, што ва ўсіх валасцях Слуцкага павета праводзіцца ўлік транспартных сродкаў, выдаецца грашовая дапамога сем'ям чырвонаармейцаў і аказваецца дапамога тым, хто пацярпеў ад контррэвалюцыі. Адкрываюцца новыя бібліятэкі. Аказваецца дапамога фронту.

Многа і іншых планаў было ў старшыні валвыканкома, але буржуазна-памешчыцкая Польшча акупіравала заходнія землі Беларусі. У такой сітуацыі Рэўваенсавет Заходняга фронта пасылае Івана Іванавіча на ўчастак дэмаркацыйнай лініі для арганізацыі актыўнай разведкі. У красавіку 1921 года, пасля ўсталявання граніцы з белапалякамі, яго пераводзяць у Асобы аддзел фронта па ахове граніцы ў Беларусі.

У кнізе А. Хахлова «Крушэнне антысавецкага бандытызму ў Беларусі ў 1918—1925 гадах» гаворыцца, што ў 1925 годзе ў Мінскім павеце сярод захопленых бандытаў аказаўся палкоўнік «арміі» Балаховіча Арлоў. Але мала хто ведае, што гэтую аперацыю падрыхтаваў і паспяхова правёў І. Апанасевіч.

У канцы 1923 года ў Маскве адкрывалася пагранічная школа АДПУ. Івана Іванавіча пасылаюць на вучобу. Год прайшоў хутка, і збылася мара вярнуцца ў родныя мясціны. Яго накіравалі ў 17-ты Цімкавіцкі пагранатрад камендантам участка ў Чырвоную Слабаду, а затым пераводзяць у Філіпавічы.

— Інцыдэнты і падзеі на граніцы адбываліся штодзённа, таму што ўчастак, які займаў 17-ты пагранічны атрад, быў адным з актыўных у Беларусі, — успамінаў баявы сябар Івана Апанасевіча тых год генерал-маёр А. Курлыкін.— Разведорганы панскай Польшчы праяўлялі выключную актыўнасць па засылцы шпіёнаў, дыверсантаў, кантрабандыстаў і іншых ворагаў Савецкай улады. Сур'ёзнай базай для гэтых злачынных элементаў у пагранпаласе былі асаднікі. Паколькі я працаваў памочнікам упаўнаважанага 17-га пагранатрада, то мне часта даводзілася прымаць удзел у арганізацыі аперацый па ліквідацыі гэтай нечысці.

Камендант участка Апанасевіч і прадстаўнік штаба атрада Курлыкін умела правялі аперацыю, у ходзе якой быў захоплены работнік 11-га аддзела генштаба Польскай арміі і буйная партыя тавараў — па ацэнцы таможні кошт іх склаў каля 50 тысяч рублёў.

Летам 1929 года Іван Апанасевіч з сям'ёй пераехаў у Полацк. За два гады службы ў 13-м пагранатрадзе яго ўмелыя і рашучыя дзеянні па ахове граніцы былі адзначаны Граматамі ЦВК БССР, Полацкага райвыканкома, а за ліквідацыю шпіёнскай арганізацыі ў пагранічнай паласе І. Апанасевіч быў зноў узнагароджаны імянной зброяй.

Калі склалася цяжкае становішча ў рэспубліках Сярэдняй Азіі, партыя накіроўвае вопытнага чэкіста на барацьбу з басмачамі.

У 1935 годзе Івана Іванавіча пераводзяць у войскі Народнага камісарыята ўнутраных спраў (НКУС) па ахове чыгуначных аб'ектаў. Пазней камандаваў палком, дывізіяй на Украіне, Далёкім Усходзе, у Беларусі.

Памёр І. Апанасевіч у лістападзе 1964 года і пахаваны ў Мінску на могілках па Маскоўскай шашы.

...Тры гады назад я ішоў па адной з новых вуліц горада Клецка, адведзенай пад забудову. Тагачасны старшыня выканкома гарсавета С. Сакалоўскі, нібыта чытаючы мае думкі, з гонарам сказаў:

— Назвалі імем былога старшыні рэўкома Апанасевіча. Гэта ж наш зямляк, камуніст з 1919-га, ганаровы чэкіст...

Уладзімір САЗАНОВІЧ.

## СПОРТ

[illegible]зага аматараў шахмат [illegible]кавана да Іспаніі. Тут пачаўся чацвёрты матч за званне чэмпіёна свету паміж выдатнымі савецкімі спартсменамі Гары Кас[illegible]равым і Анатолем Кар[illegible]м. Па рэгламенту бу[illegible] згуляна 24 партыі.

А вось два мацнейшыя шашысты свету ленінградзец Аляксандр Дыбман і мінчанін Анатоль Гантварг свой паядынак за карону праводзяць дома — у Іркуцку. Для перамогі беларускаму спартсмену патрэбна набраць 10,5 ачка з 20. Пакуль пасля першай паловы матча лік нічыйны — 5:5.

Прайшлі гульні па футболу за еўрапейскія Кубкі. Адзначым упэўненую перамогу мінскіх дынамаўцаў. Яны двойчы (2:0 і 2:1) абыгралі турэцкі клуб «Генчлербірлігі» і выйшлі ў адну восьмую фіналу розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў. Наступным іх сапернікам будзе іспанскі «Рэал Сасьедад дэ Футбол».

Як вядома, чарговыя летнія Алімпійскія гульні пройдуць у наступным годзе ў Сеуле. Першую рэпетыцыю тут правялі стралкі, дзе вызначыўся Ігар Басінскі з Гродна. Ён заваяваў залаты і сярэбраны медалі ў стральбе з малакаліберната пісталета.

У Бруселі завяршыўся чэмпіянат Еўропы па валейболу. Мужчынская зборная СССР упэўнена перамагла ўсіх сваіх сапернікаў і заняла першае месца. Нашы жанчыны ўступілі ў фінале камандзе ГДР — 2:3 і заваявалі сярэбраныя ўзнагароды. Сярод спартсменак Савецкага Саюза выступала і мінчанка Ірына Гарбацюк.

А яе сяброўкі — валейбалісткі «Камунальніка» выйгралі ў Вене буйны міжнародны турнір — Кубак Дуная.

Наталля Румянцава з Дубны — чэмпіёнка свету па водных лыжах. Пяць разоў сёлета сустракалася з ёю на буйных спаборніцтвах беларуская спартсменка Марына Амяльянчык і чатыры разы перамагла. Вось і нядаўна мінчанка выйграла міжнародны турнір «Італьянскія майстры», а Наталля Румянцава была другой.

Вялікую цікавасць аматараў спорту Беларусі выклікаюць выступленні каманд рэспублікі ў першынствах краіны па хакею, баскетболу, гандболу. У гэтых відах спаборніцтвы толькі пачаліся. Асабліва добры старт узялі гандбалісты. Мінскі СКА, напрыклад, у першым туры выйграў усе свае сустрэчы. Да таго ж нашай камандзе хутка прыйдзецца выступаць у турніры розыгрышы Кубка ўладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1467